**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.30, 21.00, 15.30;
Віцебск — 5.15, 20.55, 15.40;
Магілёў — 5.19, 20.49, 15.30;
Гомель — 5.24, 20.38, 15.14;
Гродна — 5.48, 21.12, 15.24;
Брэст — 5.53, 21.08, 15.16.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 5 жніўня.

**ІМЯНІНЫ:**
Барыса і Глеба, Хрысціны, Палікарпа;
Славы, Якуба



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

6 ЖНІЎНЯ 1992 г.
чацвер, № 155 (21933)

## РОЗГАЛАС

### ПАСТАНОВА

**Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ СКЛАДУ САВЕТА КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Зацвердзіць Савет Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь у наступным складзе:

Саковіч В. А. — Старшыня Савета Кантрольнай палаты
Корбут М. П. — намеснік Старшыні Кантрольнай палаты
Далгалёў В. Б. — намеснік Старшыні Кантрольнай палаты
Радомскі В. І. — намеснік Старшыні Кантрольнай палаты
Глушкевіч Я. М. —начальнік упраўлення арганізацыйна-прававой работы Кантрольнай палаты.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

24 ліпеня 1992 г.
г. Мінск.

### ПАСТАНОВА

**Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**

**АБ МАТЭРЫЯЛЬНАЙ ПАДТРЫМЦЫ НЕПРАЦУЮЧЫХ ПЕНСІЯНЕРАЎ**

У мэтах недапушчэння зніжэння жыццёвага ўзроўню непрацуючых пенсіянераў ва ўмовах далейшай лібералізацыі цэн Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць прапанову Пенсіённага фонду аб аднаразовай выплаце ў жніўні гэтага года кожнаму непрацуючаму пенсіянеру 300 рублёў і аб фінансаванні ўказаных расходаў органамі сацыяльнага забеспячэння за кошт сродкаў фонду.

2. Прасіць Нацыянальны банк прадастаўляць пры неабходнасці Пенсіённаму фонду крэдыт для забеспячэння своечасовай выплаты пенсій і дапамог.

**Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. МЯСНІКОВІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

5 жніўня 1992 г.
г. Мінск.

## ДЗІКІ-«КАМБАЙНЕРЫ»

**ГОМЕЛЬ. Яшчэ не закончылася жніво, а дзе-нідзе пачалася актыўная ўборка позніх сартоў бульбы. Ці не рана? Не, бо ў якасці бульбаўборачных камбайнаў выступаюць статкі дзікоў, якіх у гэтых месцах развялося больш чым трэба. Так, у саўгасе «Камарынскі» Брагінскага раёна яны паспелі начыстую «перааараць» ужо больш за 10 гектараў бульбы. Да ўказанай лічбы дзікі-«камбайнеры», як трапна ахрысцілі ў народзе гэтых жывёлін, набліжаюцца і ў калгасе імя Фрунзе таго ж Брагінскага раёна, а таксама ў некаторых іншых гаспадарках Нараўляншчыны і Чачэршчыны.**

**Нашэсце дзікоў стала тут сапраўдным бедствам — яны паядаюць і вытоптваюць пасевы аўса, ячменю, іншых культур, раскопваюць бурты. Калектывы калгасаў і саўгасаў арганізоўваюць начныя дзяжурствы ўзброеных стрэльбамі вартаўнікоў. Аднак гэта пакуль дапамагае мала. Тым больш што летам ніхто не дае дазволу на адстрэл дзікоў.**

## А З НЕБА СТРАХОЎКІ НЕ ЗАПАТРАБУЕШ

**БУДА-КАШАЛЁВА. Нясцерпная спёка тут дзе-нідзе перапыняецца кароткімі, але небяспечнымі навальніцамі. Адна з іх абрушылася на землі калгаса імя Леніна і нарабіла бяды.**

Быццам з градабойных установак на працягу 15—20 хвілін лупцаваў град, які так «абмалаціў» 300-гектарнае поле аўса, ячменю і жыта, што там мала што засталося ўбіраць. Вось тут і ўспомнілі пра піянераў, якіх раней мабілізоўвалі на збор каласкоў. Толькі дзе сёння знойдзеш тых піянераў?

Таму, вывеўшы на «паранеыя» палеткі камбайны, каб хоць нешта сабраць з іх, у калгасе з болем у сэрцы склалі акт аб уроне, які нанесла стыхія.

Толькі ад гэтага не лягчэй, бо пакуль ніхто не хоча выплачваць страхоўку. А да неба, як вядома, прэтэнзій не прад'явіш.

## БОЛЬШ ТАКІХ БЫ ФЕРМЕРАЎ

**ГОМЕЛЬ. Мала хто верыў у поспех фермера Леаніда Парфянкова, калі ён узяў у карыстанне запушчаны 46-гектарны сад, спісаны з балансу калгаса імя XXII з'езда КПСС.**

Маўляў, ён і стары, і сарты яблынь неперспектыўныя.. Але аграном-садавод, які закончыў Ціміразеўскую акадэмію, за кароткі час так наладзіў справу, што сёлета мае намер прадаць гараджанам 1,5 тысячы тон яблыкаў.

Калі б у вобласці знайшлося яшчэ некалькі такіх фермераў, адпала б неабходнасць ездзіць за вітамінамі ў блізкае і далёкае замежжа, як гэта робіцца цяпер.

# ПРЫСПЕШВАЕ ЖНІВО ХЛЕБАРОБА

Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову «Аб ходзе выканання рашэнняў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па пытаннях павелічэння вытворчасці кармоў і фарміравання дзяржаўных рэсурсаў збожжа ў 1992 годзе».

У ёй, у прыватнасці, гаворыцца, што Міністэрствам сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання і яго органамі на месцах, аблвыканкомамі і райвыканкомамі не прыняты меры па выкананню рашэнняў урада па пытаннях павелічэння вытворчасці кармоў і фарміравання дзяржаўных рэсурсаў збожжа ў 1992 годзе. Гаспадаркамі былі ўпушчаны лепшыя тэрміны ўборкі шматгадовых траў першага ўкосу, не выкарыстоўваюцца магчымасці для нарыхтоўкі кармоў на нясельскагаспадарчых угоддзях. А гэта ў сваю чаргу прывяло да зніжэння аб'ёмаў назапашвання травяністых кармоў.

У цэлым па рэспубліцы нарыхтавана толькі 7,6 цэнтнера кармавых адзінак на ўмоўную галаву жывёлы супраць 8 цэнтнераў у мінулым годзе. Ва ўсіх абласцях назіраецца значнае адставанне ў параўнанні з мінулым годам. У Гродзенскай вобласці на 11 працэнтаў менш, Магілёўскай — на 9, Віцебскай —на 6, Мінскай—на 5 і Гомельскай — на 3 працэнты.

Як выключна напружаную ацэньвае ўзнікшую ў рэспубліцы абстаноўку з нарыхтоўкай кармоў і фарміраваннем рэсурсаў збожжа Савет Міністраў рэспублікі. У пастанове падкрэсліваецца, што сітуацыя патрабуе тэрміновых мер, якія б далі магчымасць у самыя кароткія тэрміны змяніць становішча спраў, забяспечыць грамадскую жывёлагадоўлю кармамі, своечасова правесці ўборачныя работы, паставіць у дзяржаўныя рэсурсы збожжа ва ўстаноўленых аб'ёмах.

У сувязі з гэтым Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

звярнуць увагу старшынь аблвыканкомаў, кіраўніцтва Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання на нездавальняючае выкананне пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 12 чэрвеня 1992 г. № 363 «Аб мерах па павелічэнню вытворчасці і павышэнню якасці кармоў у 1992 годзе» ў частцы забеспячэння больш высокіх тэмпаў нарыхтоўкі кармоў, накіравання ў гэты час у вёску рабочых і служачых, тэхнікі з прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый і устаноў у гарадах і раённых цэнтрах.

Даручыць аблвыканкомам, кіраўнікам рабочых груп, зацверджаных распараджэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 6 ліпеня 1992 г. № 690р, у тыднёвы тэрмін разгледзець па кожнаму раёну становішча спраў з забеспячэннем жывёлагадоўлі кармамі, уборкай ураджаю, выкананнем абавязковых паставак збожжа ў дзяржаўныя рэсурсы і далажыць аб гэтым ураду. Выпрацаваць меры па папаўненню кармавых рэсурсаў за кошт расшырэння плошчаў пад пасляўкоснымі і паўкоснымі культурамі, касьбы на нясельскагаспадарчых угоддзях, поўнага збору і захаванасці ўсіх відаў кармоў, па забеспячэнню кожнай гаспадаркі насеннем, правядзенню сяўбы азімых культур, рапсу і іншых неадкладных работ. Ажыццявіць проціпажарную ахову сабранага ўраджаю, пасеваў сельскагаспадарчых культур, тарфяных і лясных угоддзяў.

Ускласці на намеснікаў старшынь аблвыканкомаў, у кампетэнцыі якіх знаходзяцца пытанні сельскай гаспадаркі, персанальную адказнасць за правядзенне ўборачных і нарыхтоўчых работ.

Строга спаганяць са службовых асоб, якія допускаюць неарганізаванасць і недысцыплінаванасць у рабоце па забеспячэнню ўборкі ўраджаю, выкананні абавязковых паставак збожжа ў дзяржаўныя рэсурсы.

У мэтах аператыўнага вырашэння пытанняў, звязаных з уборкай ураджаю, забеспячэннем жывёлагадоўлі кармамі, нарыхтоўкамі збожжа ў дзяржаўныя рэсурсы, завозам нехапаючай колькасці збожжа з-за межаў рэспублікі, ажыццяўлення кантролю за выкананнем Міністэрствам сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, Міністэрствам хлебапрадуктаў, іншымі міністэрствамі і ведамствамі, аблвыканкомамі пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 1992 г. № 402 «Аб надзвычайных мерах па фарміраванню дзяржаўных рэсурсаў збожжа ў 1992 годзе» ўтварыць пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Надзвычайную камісію ў саставе А. І. Бокача (старшыня камісіі), С. С. Лінга (намеснік старшыні), С. В. Брыля, У. А. Заламая, С. П. Янчука, В. В. Сурмача, У. М. Шэпеля, М. М Чыгіра, І. А. Аўдзейчыка.

Устанавіць, што рашэнні камісіі з'яўляюцца абавязковымі для міністэрстваў, ведамстваў і аблвыканкомаў.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, Міністэрству фінансаў, Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання ў тыднёвы тэрмін давесці да ведама накіраваных на ўборку студэнтаў, навучэнцаў, рабочых і служачых прамысловых прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый умовы аплаты працы.

Старшыням аблвыканкомаў, міністру сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Ф. У. Міračыцкаму, міністру хлебапрадуктаў М. С. Якушаву прыняць тэрміновыя меры па нарыхтоўцы збожжа ў дзяржаўныя рэсурсы.

Дзяржэканомплану сумесна з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, Міністэрствам хлебапрадуктаў, аблвыканкомамі да 5 жніўня 1992 г. распрацаваць баланс дзяржаўных рэсурсаў збожжа па асноўных культурах для харчовых і фуражных мэт з вызначэннем аб'ёмаў, неабходных для кампенсацыі завозімых у рэспубліку круп і нязбожжавай сыравіны для вытворчасці кармоў, а таксама аб'ёмаў закупак нехапаючага збожжа за межамі рэспублікі.

Дзяржэканомплану, Міністэрству фінансаў, Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях, Міністэрству рэсурсаў, Міністэрству хлебапрадуктаў, Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання да 5 жніўня 1992 г. унесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб закупках за межамі рэспублікі нехапаючага збожжа і крыніцах іх фінансавання.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Любы касцёр калісьці дагарыць... Калі?

**Страты ад пажараў гэтым летам вылічваюцца многімі мільёнамі рублёў і, як паказвае практыка барацьбы з агнём, калі не будуць прыняты экстранныя меры па рэарганізацыі пажарнай аховы, у будучым маштабы бяды прымуць яшчэ большы размах. Як прадухіліць яе? Што процiпаставіць вогненнай стыхіі, якая за два месяцы ўжо праявіла свой буйны нораў больш чым у 4.000 ачагоў узгаранняў, ахапіўшы пажарамі больш чым 5 тысяч гектараў лясоў, тарфянікаў, палёў? Аб гэтым і ішла размова на расшыранай нарадзе кіруючых работнікаў парламента і ўрада, якую правёў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Вячаслаў КУЗНЯЦОЎ.**

Масавыя пажары ў лясах і на тарфяніках рэспублікі, выкліканыя засухай, не рэдкасць і паўтараюцца праз кожныя 5—6 гадоў. Аднак сёлета сітуацыя ўскладнілася тым, што пачалі гарэць збожжавыя. У Баранавіцкім раёне вогненная стыхія абудзіла ад шматгадовай спячкі смяротную начынку, якая засталася ў зямлі з вайны, пачуліся выбухі. Ля вёскі Літва «падсмалены» снарад узарваўся паблізу шашэйнай дарогі...

Што рабіць? Сёлета сапёра з мінашукальнікам у агонь не пашлеш, а спецыяльных машын катастрафічна не хапае. І не толькі: браніраваных для экстраннага размініравання ў надзвычайных сітуацыях. Мала выкарыстоўваецца і іншай ваеннай тэхнікі, якая выдатна зарэкамендавала сябе пры тушэнні лясных пажараў. Справа ў тым, што большасць машын «закансервавана» на доўгае захоўванне.

Удзельнікі нарады адзначалі, што «расканерваваць» тэхніку нескладана. Аднак, каб укамплектаваць экіпажы, неабходна прызваць на службу ваеннаслужачых запасу, а для гэтага патрабуецца спецыяльны загад Міністэрства абароны. Загаду няма. Гарым трэці месяц...

Ды калі б толькі гэта! Запатрабавалася спецыяльнае распараджэнне ўрада, каб хоць неяк забяспечыць пажарныя часці, што вядуць барацьбу з агнём, палівам і гаручазмазачнымі матэрыяламі.

Можа сітуацыя, якая склалася гэтым летам, нетыповая? На жаль. У рэспубліцы штогод рэгіструецца 15—16 тысяч пажараў. У агні гіне 450—500 чалавек. Эканамічныя страты складаюць не менш чым мільярд рублёў. Калі гэтыя лічбы будуць мець выгляд сярэднестатыстычных, па колькасці насельніцтва, то яны акажуцца значна вышэйшымі, чым у іншых краінах. У крызісным стане знаходзяцца многія падраздзяленні пажарнай аховы, якія расканцэнтраваныя ў трынаццаці міністэрствах і ведамствах. З-за адсутнасці грошай больш палавіны з іх знаходзяцца на грані расфарміравання.

«Пайшла дымам» і сістэма цэнтралізаванага забеспячэння сродкамі барацьбы з пажарамі і аварыямі. Дарэчы, уласных прадпрыемстваў, якія выпускаюць такую прадукцыю, у рэспубліцы няма. Сучасны пажарны аўтамабіль каштуе сёння звыш мільёна рублёў. А толькі за два месяцы гэтага года пры тушэнні лясоў і тарфянікаў са строю выйшла палавіна машын, занятых на пажарах.

Яшчэ горшая сітуацыя з забеспячэннем пажарнай бяспекі аб'ектаў і галін народнай гаспадаркі, якія раней падпарадкоўваліся саюзным міністэрствам і ведамствам. Цудам абыходзіць бяда «МАЗ», «БелАЗ», «Мінскі трактарны завод», «Азот», «Хімвалакно», «Гомсельмаш», элеватары, збожжапрыёмныя прадпрыемствы. Іх абсталяванне эксплуатуецца на грані магчымасці і знаходзіцца ў перадаварыйным стане. Наглядным прыкладам таго, што можа адбыцца, служыць аварыя на ВА «Палімір» у Наваполацку. Тут спатрэбілася 15 гадзін бесперапыннай барацьбы з агнём, каб прадухіліць узгаранне вытворчасці, дзе выкарыстоўваецца сінільная кіслата. І калі б здарылася непапраўнае, не толькі прадпрыемства спыніла б сваё існаванне, але і ў горадзе былі б шматлікія ахвяры...

На думку прадстаўнікоў пажарнай аховы рэспублікі, асноўная прычына пажаранебяспечнай сітуацыі — фінансы. Больш правільна, іх адсутнасць. Толькі 0,12 працэнта ад валавога грамадскага прадукту расходуецца ў Беларусі на проціпажарную абарону. Гэта ў некалькі разоў менш, чым у іншых краінах. Але ж размова ідзе іменна аб той сітуацыі, калі скупы плаціць нават не двойчы, а ў дзесяткі разоў больш.

Ёсць і іншыя, не менш сур'ёзныя, прычыны. На нарадзе адзначалася, што заканадаўства ў галіне пажарнай бяспекі недасканалае. Нарматыўныя акты, якія рэгламентуюць дзейнасць проціпажарнай службы рэспублікі, датаваныя 1946 годам. Натуральна, яны носяць дэкларатыўны характар, не вызначаюць ні арганізацыйна-прававога, ні тэхніка - эканамічнага статуса службы.

Іменна таму ўдзельнікі нарады сышліся ў адным: з рэформай сістэмы пажарнай аховы цягнуць нельга. Мінфін і Галоўнае ўпраўленне пажарнай аховы МУС рэспублікі павінны ў бліжэйшы час падрыхтаваць свае прапановы ўраду і заканадаўцам. Што ж, лепш позна, чым ніколі...

**Аляксандр КРЫЖАНОЎСКІ. (БЕЛІНФАРМ).**

Мінск.

## ТРАНСНАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТРАНСПАРТЫЙНАЯ

У Мінску адбылася І канферэнцыя беларускіх членаў Транснацыянальнай Радыкальнай партыі. У канферэнцыі прынялі ўдзел каля 50 дэлегатаў, у тым ліку народны дэпутат Беларусі Яўген Цумараў, старшыня АДПБ Аляксандр Дабравольскі (госць), член федэральнага савета ТРП Андрэа Тамбуры (Італія), прадстаўнікі экалагічных арганізацый Украіны і Расіі.

Радыкальная партыя была створана ў 1955 годзе ў Італіі на базе левага крыла Ліберальнай партыі і ўдзельнікаў студэнцкага руху. Зараз Радыкальная партыя налічвае звыш 5.000 членаў у 25 краінах Еўропы, Амерыкі, Азіі, Афрыкі, у тым ліку і ў рэспубліках былога Савецкага Саюза. Асноўныя задачы партыі — абарона правоў чалавека, ажыццяўленне лозунга аб Злучаных Штатах Еўропы, адмена смяротнага пакарання, права на адмову ад воінскай службы, барацьба з наркотыкамі, экалогія. Гэта, напэўна, адзіная партыя ў свеце, якая не забараняе сваім членам знаходзіцца ў іншых палітычных партыях і ў гэтым сэнсе яе можна параўнаць з шырокім непартыйным рухам за правы чалавека. Метады барацьбы — актыўнае палітычнае ненасілле.

**Аляксей ГАЛІЧ.**

БАРСЕЛОНА-92

## САМЫ МОЦНЫ ЧАЛАВЕК ПЛАНЕТЫ

Вітацца з імі за руку заўсёды прыемна і... боязна. Прыемна ад усведамлення таго, што абодва яны — і алімпійскі чэмпіён 1980 года Леанід Тараненка, і пераможца Гульняў-1988 Аляксандр Курловіч вось ужо 12 гадоў запар, змяняючы адзін аднаго, трывала ўтрымліваюць за сабой неафіцыйны тытул самых моцных людзей на Зямлі. Боязна, бо, скажу шчыра, мала радасці ад іхніх поціскаў рукі: волатаўская сіла яна і ёсць волатаўская...

А ў жыцці абодва яны — дабракі, сапраўдныя джэнтльмены. Што ні спытаеш — раскажуць нібы на духу; ды і пра планы і задумы свае ніколі, здаецца, не ўтойваюць. Чаго вартыя, скажам, тыя ж разлікі, зробленыя некалькі гадоў назад Леанідам Тараненкам і ягоным настаўнікам Іванам Лагвіновічам паводле якіх на памосце алімпійскі чэмпіён-80 будзе выступаць ажно да свайго 40-годдзя, гэта значыць, да Алімпіяды-96. Тады ж знайшліся скептыкі, якія засумняваліся ў гэтым, ды і сам атлет зрэдку пачаў здаваць... Вядома, прычынай таму былі і бліскучыя выступленні ягонага сябра і саперніка Курловіча — спартсмена таксама таленавітага, здольнага, маладзейшага.

У зборнай СССР, а потым — і ў камандзе Садружнасці Незалежных Дзяржаў ім даўно няма роўных. Выстаўляць жа двух прадстаўнікоў у адной і той жа вазе кіраўнікам калектыву не заўсёды выдаецца магчымасць: то інтарэсы каманднай барацьбы не дазваляюць, то не бывае патрэбы зводзіць хлопцаў у паядынку паміж сабой... Галоўны трэнер зборнай СНД, славуты ў мінулым асілак Васіль Аляксееў, тым не менш, не крыўдзіць ні Курловіча, ні Тараненку, выдатна ведаючы і ўсведамляючы чаго вартыя і іх шчырая праца, і таленты... Адным словам, «ужываюцца» нашы волаты, па сутнасці, без праблем.

Выйсці разам на алімпійскі памост ім прадставілася магчымасць чатыры гады назад — у Сеуле, на Гульнях XXIV Алімпіяды. І Аляксандр, і Леанід былі тады ў бліскучай спартыўнай форме, гатовы былі павесці спрэчку за залаты медаль, як кажуць, на самым высокім узроўні. Ды лёс распарадзіўся інакш: ужо там, у сталіцы Алімпіяды, Тараненка нечакана захварэў і выйсці на паядынак не змог... Тытул чэмпіёна Курловіч заваяваў без асаблівых праблем.

І вось мінула чатыры гады. У Барселоне хлопцам з Гродна і Мінска выдаўся яшчэ адзін шанц паспрачацца за тытул самага моцнага на планеце...

Толькі адзін атлет — нямецкі штангіст Манфрэд Нёрлінгер змог стаць — не, не сапернікам, а ўсяго толькі асістэнтам — у іхняй вочнай спрэчцы. 31-гадовы Аляксандр Курловіч, ўзяўшы 200-кілаграмовую штангу ў рыўку і ўзняўшы 250 у штуршку, у другі раз запар выйграў Алімпіяду. «Серабро» з сумай 425 кілаграмаў атрымаў Леанід Тараненка, «бронзу»— Манфрэд Нёрлінгер: ён паказаў усяго толькі 412,5 кілаграма.

Такім чынам, залаты медаль Гульняў, заваяваны нашым штангістам, стаў дзесятай вышэйшай узнагародай беларускіх пасланнікаў у Барселоне. Па колькасці іх яны дзеляць пятаешостае месцы з камандай Венгрыі. І яшчэ, як кажуць, не вечар...

**Анатоль ФЁДАРАЎ.**

**На здымку: Аляксандр КУРЛОВІЧ.**

*Павел КАЗЛОЎСКІ:*

# Стаць нейтральнай дзяржавай Беларусь зможа. Але зрабіць гэта будзе нялёгка

**З МІНІСТРАМ АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ГЕНЕРАЛ-ПАЛКОЎНІКАМ ПАЎЛАМ КАЗЛОЎСКІМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ АГЕНЦТВА «ІНТЭРФАКС» ВЯЧАСЛАЎ ЗЯНЬКОВІЧ**

**— Павел Паўлавіч! Парламент нашай рэспублікі абвясціў курс на дасягненне бяз'ядзернасці і дзяржаўнага нейтралітэту. У друку не раз ставілася пытанне аб тым, наколькі рэальнае ўвасабленне ў жыццё гэтых імкненняў. Скажыце, якая ваша думка наконт гэтага?**

— Стаць нейтральнай дзяржавай — для Беларусі гэта адна з галоўных мэт. Але зрабіць гэта будзе нялёгка. Наша рэспубліка мае асаблівае геаграфічнае становішча. Праз яе тэрыторыю праходзяць важнейшыя міжнародныя камунікацыі, якія звязваюць Расію з Захадам. Такім чынам, у стабільнасці і паслядоўнасці палітычнага курсу Беларусі зацікаўлена ўсё еўрапейскае супольніцтва. Улічваючы гэта, мы будзем праводзіць самастойны курс ў галіне ваеннай палітыкі.

Якім ён будзе — вызначыць распрацоўваемая ваенная дактрына, якая будзе ўяўляць сабой сістэму афіцыяльна прынятых асноўных вывадаў, поглядаў на вайну, ваеннае будаўніцтва, адбіццё нападу ваеннага агрэсара, а таксама на спосабы вядзення барацьбы па абароне суверэнітэту Беларусі і яе дзяржаўнай цэласнасці. Нам патрэбна такая дактрына, якая б адлюстроўвала інтарэсы Беларусі як нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавы з улікам існуючай у свеце палітычнай абстаноўкі. Таму не выключаю магчымасці прыняцця спачатку дактрыны на пераходны перыяд, час дзеяння якой абмяжоўваўся б дасягненнем асноўнай ваенна-палітычнай мэты рэспублікі — завяршэннем фарміравання Узброеных Сіл Беларусі і вываду з яе тэрыторыі 30-тысячнага кантынгенту Стратэгічных Сіл Расіі.

Першы варыянт ваеннай дактрыны нядаўна быў разгледжаны Саветам Бяспекі Беларусі і прыняты за аснову. З улікам заўваг, розных прапаноў ён цяпер дапрацоўваецца, і пасля другога разгляду Саветам Бяспекі, думаю, будзе вынесены на разгляд Вярхоўнага Савета.

Гавараць сёння аб тым, што Беларусь ужо стала нейтральнай дзяржавай, — бадай заўчасна. Рэспубліка пакуль толькі рухаецца да такога стану. Аўстрыя, Швейцарыя і іншыя краіны ішлі да свайго нейтралітэту праз стагоддзі, часам у складаных палітычных перыпетыях.

**— Наколькі доўгім будзе гэты шлях у нас?**

— Гэта пакажа час. Ва ўсякім выпадку, не раней, чым з нашай тэрыторыі будзе выведзена стратэгічная ядзерная зброя згодна з падпісанымі беларускім бокам лісабонскімі пагадненнямі. Гэта павінна адбыцца не пазней, чым праз 7 гадоў.

Ды і ўласныя нашы Узброеныя Сілы маюць цяпер значны наступальны патэнцыял. Столькі зброі, баявой тэхнікі і салдат не патрэбна нейтральнай дзяржаве. Мы павінны паступова і разумна развітвацца з гэтай спадчынай, якая дасталася Беларусі ад СССР.

Немалы ўплыў на тэрміны станаўлення Беларусі як нейтральнай дзяржавы будзе мець палітычная сітуацыя як унутры рэспублікі, так і за яе межамі. Цяпер у нас склаліся роўныя адносіны з усімі суседзямі. Націску з боку іншых дзяржаў, спроб уцягнуць Беларусь у якія-небудзь ваенныя блокі і саюзы ў апошні час, можна сказаць, няма. Хоць, трэба прызнаць, яшчэ 2—4 месяцы таму назад, калі мы толькі пачалі фарміраванне беларускіх Узброеных Сіл, гэта іншы раз праяўлялася. Нядаўна мы падпісалі дагавор з Расіяй аб узаемнай каардынацыі ў ваеннай галіне. Рыхтуюцца аналагічныя дагаворы і з іншымі рэспублікамі былога СССР. Усе яны па свайму зместу не носяць характару ваеннага саюза, а толькі сістэматызуюць адносіны ў ваеннай сферы.

**— Павел Паўлавіч, вы не раз у час прэс-канферэнцыі заяўлялі аб тым, што ваенны дагавор з Расіяй не трэба разглядаць як ваенны саюз з ёю. А можа, некаторыя элементы гэтага саюза ў дагаворы ўсё ж ёсць? Галоўнае, што адрознівае менавіта ваенны саюз ад розных форм дагавораў і пагадненняў, — гэта магчымасць правядзення сумесных баявых дзеянняў. Вы са мной згодны?**

— У некаторай ступені згодны.

**— У ваенным дагаворы з Расіяй агаворваецца стварэнне механізма, які рабіў бы тэхнічна немагчымым прымяненне Расіяй стратэгічнай ядзернай зброі з тэрыторыі Беларусі без санкцыі на тое кіраўніцтва нашай рэспублікі. Такім чынам, у прынцыпе, Беларусь і Расія ўдваіх могуць гэта зрабіць?**

— У гэты дакумент сэнс укладваўся іншы. Сапраўды, мы дагаварыліся з Расіяй распрацаваць пэўныя механізмы, пры наяўнасці якіх выкарыстанне расійскіх ядзерных установак на тэрыторыі Беларусі будзе тэхнічна немагчымым без згоды на тое кіраўніцтва нашай рэспублікі. Размова ішла не аб сумесным выкарыстанні ядзерных ракет, а аб стварэнні неабходных умоў тэхнічнага кантролю за іх невыкарыстаннем. Дарэчы, сама Беларусь, хоць і мела, і мае цяпер на сваёй тэрыторыі стратэгічную ядзерную зброю, ніколі самастойна не магла і не можа яе выкарыстаць, таму што сакрэтныя коды, без якіх ні адна ракета не ўзнімецца ў паветра, знаходзіліся раней у руках Старшыні Савета абароны СССР, а цяпер — у расійскага Прэзідэнта.

**— Калі ж Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі атрымае сваю «долю» кодаў?**

— Я так пытанне не ставіў бы. Размова ідзе не аб кодах, а аб якімсьці варыянце тэхнічнага блакіравання. Для пераабсталявання існуючай сістэмы неабходны час. Па дамоўленасці з Расіяй гэты тэрмін будзе вызначаны ў спецыяльным пагадненні.

**— Выкарыстанне, напрыклад, амерыканскіх ядзерных ракет на ваенных базах у іншых дзяржавах узгадняецца з іх урадамі?**

— Наколькі мне вядома, напрамую гэта не робіцца. Запуск ядзерных ракет там можа праводзіцца выходзячы са спецыяльных міждзяржаўных пагадненняў у рамках блока НАТО.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## РАДЫЁ ФАКТ

**Прэс-цэнтр Міністэрства абароны рэспублікі Беларусь паведаміў, што самалётам ІЛ-76 прыбыла чарговая група ваеннаслужачых і іх сем'яў з Закаўказзя. Усе прыбыўшыя — выхадцы з Беларусі.**

***

У ноч з 26-га на 27-га ліпеня невядомымі пакуль асобамі на вытворчым аб'яднанні «Гранат» у гарадскім пасёлку Мікашэвічы Брэсцкай вобласці выкрадзены цэзій-137 у свінцовай скрынцы. На жаль, на сённяшні дзень месцазнаходжанне прапажы не выяўлена. Просьба да ўсіх грамадзян, каму вядома што-небудзь, неадкладна паведаміць у мясцовыя органы ўнутраных спраў. Крыніца радыеактыўнасці ўяўляе сур'ёзную небяспеку для здароўя людзей.

***

**Усё далей распаўзаюцца радыяцыйныя выкіды Чарнобыльскай АЭС. Санітарна-эпідэміялагічная служба Талачынскага раёна Віцебскай вобласці вымушана была папярэдзіць насельніцтва, што ў вёсках Старая і Новая Будоўка, Сані, Ельнікі зарэгістравана забруджанасць цэзіем. Таму рэкамендавана адмовіцца ад збору грыбоў і ягад у лясных масівах ля гэтых вёсак.**

***

Мы ўсе ведаем, як цяжка прадаць цяпер на мясакамбінаты адкормленую жывёлу. Напрыклад, страты ад перарасходу кармоў у аграфірме «Беларусь», што ў Івацэвіцкім раёне, склалі 2 мільёны рублёў. І такіх фактаў шмат. Таму мяркуем, што гаспадарнікі зацікавяцца прапановай спадара Грушвіца — кіраўніка нямецкай фірмы па вытворчасці кампактных машын па перапрацоўцы мяса. Машыны гэтыя танныя, кампактныя, з добрай тэхналогіяй. Іх з задавальненнем купляе Украіна, Расія, а вось заказчыкаў з нашай рэспублікі на выгадных умовах пакуль няма. Тыя, хто зацікавіцца прапановай супрацоўніка нямецкай фірмы, звяртайцеся на карэспандэнцкі пункт радыё Беларусі ў Брэсце.

Нумар тэлефона: 5-53-00.

## Мінск пераводзіць стрэлкі

**Насуперак усеагульнай модзе на раённыя «суверэнітэты» беларускія чыгуначнікі вядуць строгую цэнтралізацыю сваёй гаспадаркі. Усё кіраванне рэспубліканскім участкам галоўнай трансеўрапейскай магістралі ад Брэста да граніцы з Расіяй пераведзена ў Мінск.**

Яшчэ раней чыгуначны аўтаматызаваны дыспетчарскі цэнтр кіравання «прыбраў да рук» станцыі і лініі Віцебскага і частку Баранавіцкага аддзяленняў чыгункі. Знаходзячыся за сотні кіламетраў ад паяздоў, дыспетчары прама са сталічнага будынка пераводзяць стрэлкі, пераключаюць святлафоры, аддаюць каманды машыністам. Усё гэта стала магчымым з пераходам чыгункі на новую тэхналогію, аснова якой — камп'ютэрная тэхніка. Пачаўшы распрацоўку сістэмы чатыры гады назад, спецыялісты магістралі падключылі да стварэння сучаснага цэнтра кіравання вядучыя прадпрыемствы рэспублікі ў галіне электронікі — мінскія аб'яднанні вылічальнай тэхнікі і «Інтэграл». Такі саюз даў магчымасць намнога апярэдзіць калег — чыгуначнікаў з іншых рэспублік. Акрамя аснашчэння ўласнага цэнтра, беларусы мантыруюць падобнае абсталяванне ў Расіі, Казахстане і Латвіі.

— Нас могуць папракнуць у тым, што ў наш «бедны» час мы трацім сродкі на дарагую сістэму, якая ў цяперашніх цэнах будзе каштаваць больш чым мільярд рублёў, — гаворыць намеснік начальніка службы перавозак Беларускай чыгункі Вячаслаў Казак. — Але вопыт вядучых краін, у тым ліку Японіі, якія ідуць у гэтым жа напрамку, паказвае, што мы на правільным шляху. Сістэма акупіцца за шэсць гадоў, прычым не толькі за кошт вызвалення дыспетчараў і іншых работнікаў, але, галоўным чынам, за кошт больш аптымальнай арганізацыі руху паяздоў. Раней кожнае аддзяленне адказвала толькі за свой участак чыгункі, і гэта нараджала некаторы эгаізм. Скажам, каб забяспечыць пропуск грузавых саставаў, затрымлівалі пасажырскія паязды або кожны па-свойму шукаў выйсця. Цяпер гэтыя задачы вырашаюцца ўзгоднена, а электроніка дапамагае знайсці аптымальныя варыянты руху паяздоў.

Ужо сёлета цэнтр возьме на сябе кіраванне яшчэ трыма ўчасткамі чыгункі ў Магілёўскай вобласці, а ў перспектыве плануецца кіраваць з Мінска рухам паяздоў на ўсіх лініях Беларусі.

**Наталля НЕВІДОМАЯ. БЕЛІНФАРМ.**

СЛУЖБЕ ЗАНЯТАСЦІ ПАТРЭБНА ДАПАМОГА ДЭПУТАТАЎ

# БЕСПРАЦОЎЕ—НЕ ТОЛЬКІ МАТЭРЫЯЛЬНЫ ЎРОН, АЛЕ І ЦЯЖКАЯ ПСІХІЧНАЯ ТРАЎМА

**Людзі, якія не хацелі працаваць і ўсяляк імкнуліся да гэтага, былі сярод нас заўсёды. Людзі, якія хочуць працаваць, але не могуць знайсці сабе прымянення, з'явіліся ў нас не вельмі даўно. Беспрацоўе, як інфекцыйная хвароба грамадства, распаўсюджваецца ўсё шырэй. Цяжар барацьбы з ёю лёг найперш на службу занятасці насельніцтва. Споўніўся год з дня яе стварэння. Кароткая практыка існавання службы ўскрыла шмат праблем, недахопаў і негатыўных момантаў. Яны выкліканы тым, што колькасць беспрацоўных хутка расце, а магчымасць знайсці месца на вытворчасці катастрафічна змяншаецца. «Звязда» не раз пісала пра гэтыя праблемы. Але іх не змяншаецца. Выказаць свой погляд на іх наш карэспандэнт папрасіла дырэктара гарадскога цэнтра занятасці ў Пінску Наталлю Анатольеўну МАГЛЫШ:**

— Умовы, якія склаліся на рынку працы ў сувязі з развалам у эканоміцы, скарачэннем аб'ёмаў вытворчасці, выклікалі масавыя выслабаненні работнікаў прадпрыемстваў і арганізацый. Рэзка скарацілася неабходнасць у рабочай сіле. І сітуацыя пагаршаецца з кожным днём. Калі ў мінулым годзе гораду штомесяц патрабавалася кадраў 600 чалавек, то сёлета — 100—50. Значных памераў дасягнула неадпаведнасць структуры свабодных і вакантных рабочых месц, структуры незанятага насельніцтва.

З псіхалагічнага пункту погляду да нас звяртаюцца вельмі розныя людзі. Часта сустракаюцца тыя, хто ніколі надта не хацеў працаваць, вёў утрыманскі лад жыцця, ні ў што сур'ёзна не ўнікаў і не адказваў ні за які ўчастак працы. Я не хачу нікога пакрыўдзіць. Але нашы назіранні даюць магчымасць так сказаць. Незадаволенасць становішчам, у якім яны апынуліся, выліваецца на работнікаў службы занятасці гневам і абурэннем. І мы аказваемся вінаватымі ва ўсіх праблемах. Асабліва гэта датычыць жанчын, параўнаўча яшчэ маладога ўзросту, якія набылі ў ВНУ мужчынскія спецыяльнасці (машынабудаўнічыя, будаўнічыя, гідратэхнічныя). Яны ніколі не працавалі па гэтых спецыяльнасцях. Займалі нейкія прамежкавыя пасады, пераходзілі з адной работы на другую без усялякага прафесійнага росту. Праца для іх была сродкам для існавання, але не прымушала думаць пра тое, што трэба ўдасканальваць і сябе. А заўсёды працай ва ўсіх сваіх нягодах абвінаваціць каго-небудзь. Наогул праблема беспрацоўя сярод жанчын стаіць востра. З дзесяці беспрацоўных восем — жанчыны.

Другі вельмі складаны момант — беспрацоўе сярод моладзі. Статыстыка паказвае, што 30 працэнтаў вызваленых з вытворчасці — моладзь да 25 гадоў. Моладзі вельмі трэба даць магчымасць неяк зацвердзіцца ў гэтым жыцці, таму што ў яе няма ніякіх сродкаў для існавання.

Рэспубліканскім заканадаўствам частка моладзі, асабліва выпускнікі сярэдніх школ, аднесена да слаба абароненай катэгорыі працуючых. Для іх прадугледжаны спецыяльныя льготы па працаўладкаванню. Гэтак жа як і для цяжарных жанчын, мнагадзетных бацькоў, асоб, якія вярнуліся з месц пазбаўлення волі і ЛПП. Для іх закон дазваляе кваціраваць тры працэнты працоўных месц, а для працаўладкавання інвалідаў — 5 працэнтаў. Аднак законы толькі абавязваюць прадпрыемствы ствараць гэтыя месцы, але ні адзін закон не зацікаўлівае ў гэтым. Нідзе не агаворана, як можна стварыць гэтыя месцы, калі прыходзіцца звальняць здаровых, поўных сіл, кваліфікаваных работнікаў. Таму прадпрыемствы згодны лепш заплаціць любыя штрафы, якія прадугледжаны за непрыём на работу па кожнаму кваціраванаму месцу,— выплата ў фонд занятасці ў размеры сярэднегадавога заробку аднаго рабочага.

Калі выпускнікі навучальных устаноў маюць спецыяльнасць, з імі лягчэй арыентавацца пры з'яўленні дадатковых рабочых месц, то з выпускнікамі сярэдніх школ сітуацыя вельмі складаная. Некваліфікаваную рабочую сілу ніхто не хоча прымаць. Прымусіць іх і выпускнікоў ПТВ працаваць на самых прымітыўных работах цяжка. Дзеці выхаваны ў духу самапавагі. Таму існуючая сітуацыя тоіць у сабе магчымыя сацыяльныя выбухі. Асабліва моладзі. Толькі ў г. Пінску мы можам чакаць на рынку працы да 2—2,5 тысячы моладзі. А квоты складаюць усяго 460 працоўных месц для яе.

На канферэнцыі па пытаннях занятасці ў Мінску ў канцы чэрвеня паднялі праблему распаду інтэлектуальнай базы, таму што ідзе павальнае скарачэнне ў навучальных установах, навукова - даследчых інстытутах і г. д. У Пінску без справы аказаўся такі гігант, як былы Галоўпалессеводбуд Міністэрства меліярацыі СССР. Гэта была вельмі магутная арганізацыя, яна пабудавала вялікую частку горада і шмат зрабіла для яго. Пінскі гідратэхнікум, БІБІ і Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія рыхтавалі шмат спецыялістаў для гідрамеліярацыі. Усе гэтыя кадры канцэнтраваліся ў нас. Былі вельмі вялікія структуры. А зараз верхнія з іх рассыпаюцца, таму што няма фінансавання. Выслабаняюцца спецыялісты з вялікім стажам і вопытам. Людзям сярэдняга ўзросту яшчэ можна думаць, як і для чаго перавучыцца. Але ў горадзе лішак людзей з вышэйшай і сярэдне-тэхнічнай адукацыяй.

Наогул штомесяц звяртаюцца да нас у сярэднім 650 чалавек. І гэта лічба павялічваецца. За паўгоддзе ў нашу службу звярнуліся 2.854 чалавекі. На ўліку 3.297 беспрацоўных.

Дарэчы, Пінск заўсёды меў лішак рабочай сілы. Частка яе шукала сабе прымянення ў іншых рэгіёнах. А зараз усё гэта насельніцтва вяртаецца да месц сваёй пастаяннай прапіскі. Бо менавіта гэты фактар з'яўляецца асноўным для працаўладкавання.

Становішча вельмі складанае. Але на той стадыі, на якой мы знаходзімся, служба занятасці можа прыняць людзей, запісаць усё, што яны хочуць ад нас атрымаць, і, практычна, нічога не прапанаваць ім. Таму што амаль усе прадпрыемствы, пачынаючы з гэтага года, кожны месяц рэзка зніжаюць падачу ў цэнтр заявак аб наяўнасці свабодных рабочых месц.

Мы зараз праводзім перанавучанне часткі беспрацоўных. Прычым нам прыйшлося нават угаворваць, тлумачыць некаторым жанчынам, што з іх спецыяльнасцю ім ніколі нічога не знайсці. І вось 20 непрацуючых жанчын з вышэйшай адукацыяй на працягу пяці месяцаў на базе ўлікова-крэдытнага тэхнікума набылі спецыяльнасць бухгалтара ва ўмовах рыначнай эканомікі. Здалі сур'ёзныя экзамены і атрымалі дыплом і кваліфікацыю. Іх мы абавязкова паспрабуем уладкаваць на работу.

Дапамаглі мы таксама вадзіцелям атрымаць дадатковыя катэгорыі. У асноўным гэта хлопцы, якія вярнуліся з арміі і па свайму ўзроўню кваліфікацыі не знаходзілі работы. Ёсць лішак вадзіцеляў у горадзе, але гэта тыя, хто праявіў сябе з негатыўнага боку і іх не бяруць на работу. Горад невялікі, і ўсе пра ўсіх усё ведаюць. А моладзі такім чынам далі магчымасць зачапіцца. Абучылі некалькі газаэлектразваршчыкаў. Дапамаглі некаторым з тых, хто адсядзеў у турме, а зараз хоча вярнуцца да нармальнага жыцця. Хоць база ў іх і вельмі нізкая, але мы бачым, як людзі хапаюцца за жыццё і на вачах мяняюцца да лепшага.

Шмат праблем і ў самой службы занятасці. Не хапае грошай, найперш па прычыне страшэннай інфляцыі. Адлічэнні ў фонд занятасці ідуць з вялікімі цяжкасцямі. Прычыны вядомыя. Неплацежаздольнасць многіх прадпрыемстваў, на якіх пачаўся натуральны абмен. Адпраўляюць людзей у водпускі без утрымання. І людзі згодныя з такім становішчам спраў. Таму што за імі хоць застаецца рабочае месца.

У мінулым годзе (не ведаю, на чым грунтуючыся) Вярхоўны Савет прыняў рашэнне толькі 5 працэнтаў ад фонду занятасці расходаваць на ўтрыманне службы. І гэта ў той час, калі наплыў беспрацоўных павялічваецца з кожным днём.

Нашай гарадской службе занятасці ў Пінску мясцовыя ўлады спрабуюць выдзеліць прыстойны будынак. Прапрацоўваецца пытанне з Дзяржкампрацы аб фінансаванні яго рамонту. Вельмі добра было б, каб нам дапамаглі.

Патрабуе ўдасканалення і Закон аб занятасці. Найперш трэба перагледзець фармулёўкі статуса беспрацоўнага. Таму што ў нас непрацуючыя людзі не маюць права называцца беспрацоўнымі. Для гэтага патрэбна наяўнасць шасці прыкмет. Атрымліваецца штучны падзел на беспрацоўных і непрацуючых людзей, хоць сродкаў для існавання няма ні ў тых, ні ў другіх. І канешне, неадкладна трэба перагледзець размер сродкаў на ўтрыманне службы.

Не салодкі абавязак ускладзены на нас. Але, хоць зрэдку, маральнае задавальненне ёсць. Па-першае, адчуваем, што без гэтай службы, на жаль, у нашым жыцці не абысціся. А калі ўдаецца ўладкаваць чалавека хоць і з вялікімі цяжкасцямі, то разумеем, што зрабілі нешта канкрэтнае.

**Хачу выкарыстаць магчымасць і вельмі настойліва папрасіць дэпутатаў усіх узроўняў прыняць да ўвагі і пастарацца вырашыць тыя праблемы, якія датычаць беспрацоўя ў нашай рэспубліцы. Гэта — вельмі страшная бяда, паверце мне. Яна можа абярнуцца самымі жахлівымі з'явамі. Калі своечасова не прыняць меры.**

**Запісала Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

ТАКСІДЭРМІЯ — даўняе захапленне Аляксандра СЕЛІВОНА. Шмат дакладна зробленых чучал жыхароў лесу ўпрыгожваюць яго кватэру. Аляксандр з поспехам удзельнічаў у буйных выстаўках паляўнічых трафеяў. Захапленню спрые яго работа — шмат гадоў працуе Аляксандр дырэктарам Валожынскай паляўнічай гаспадаркі.

Добра ведаць лес і звычкі яго насельнікаў, абараняць фауну ад драпежнікаў абавязвае пасада.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# «Мне без чаргі... Я—ільготнік»

**ЯК ЧАСТА ЧУЕМ МЫ ГЭТЫЯ СЛОВЫ Ў МАГАЗІНЕ, БІЛЕТНАЙ КАСЕ, ПАЛІКЛІНІЦЫ. ЦІ АПРАЎДАНА, ШТО КОЛЬКАСЦЬ ТЫХ, ХТО КАРЫСТАЕЦЦА ПРЫВІЛЕЯМІ, НЯСПЫННА РАСЦЕ!**

### БЯСПЛАТНА!

Яшчэ ў самым пачатку памятных часоў застою дырэктар аднаго завода вырашыў паказаць іншым кіраўнікам горада, як трэба на справе клапаціцца аб людзях, і загадаў у летнюю спёку частаваць усіх рабочых і спецыялістаў прадпрыемства хлебным квасам бясплатна. Чуткі аб гэтай акцыі ўмомант абляцелі горад. Але што ў канчатковым выніку атрымалася — уявіць няцяжка: бочка, у якой змяшчалася амаль тысяча літраў пітва, апаражнялася за нейкія тры гадзіны. А ў змене працавала менш чатырох соцень чалавек. У другую змену прывозілі яшчэ бочку. Ізноў хапала на тры-чатыры гадзіны. Калі ж праз тыдзень гэты эксперымент вымушаны былі спыніць і квас вырашылі прадаваць па існаваўшай у той час сімвалічнай цане, — тую ж колькасць сталі выпіваць толькі за тры ці чатыры дні. Усім заводам...

Выпадак, можа, і недарэчны, але вельмі ўжо яскравы. А вось «бясплатны» хлеб на сталах прадпрыемстваў грамадскага харчавання быў, бадай, усюды. Таксама недарэчнасць. А як мы сёння ставімся да выкарыстання газу, вады, цяпла ў сваіх кватэрах — нагадваць не трэба. І ўсё таму, што плата бярэцца не за фактычны расход, а ў залежнасці ад колькасці людзей, прапісаных у кватэры, і ад яе плошчы. Вядома, арганізаваць улік вады і цеплавой энергіі ў кожнай кватэры, нават устанавіць запорную арматуру на ацяпляльных прыборах — задача для нас невырашальная. З гэтым прыйдзецца змірыцца.

А ўвогуле, усе мы добра разумеем, што бясплатнага нічога і нідзе няма. За ўсё хтосьці абавязкова плаціць. У гэтай сувязі былі ўсе падставы спадзявацца, што адпаведныя парламенцкія камісіі накіруюць свае намаганні на тое, каб адмяніць або на першым часе хаця б звузіць існуючае льготнае карыстанне асобнымі паслугамі. Магчыма, з нейкай кампенсацыяй у самых неабходных выпадках. Зразумела, пазбаўляць людзей ільгот, да якіх яны прызвычаіліся, вельмі непрыемна. А хіба прыемна бачыць на кожным кроку тыя недарэчнасці, якія здараюцца пры размеркаванні даброт бясплатна?

Жывуць у адным доме два інваліды вайны II групы. Першы — у 4-пакаёвай кватэры з вялікай сям'ёй (7 чалавек). Другі — у аднапакаёвай удваіх з жонкай. А непадалёк у сваім драўляным доміку з усімі выгодамі на двары ў адзіноце жыве трэці такі ж інвалід. Зусім проста падлічыць, колькі кожны з іх возьме дадаткова з кішэні падаткаплацельшчыка за кошт скідкі з тарыфаў на кватэрную плату, электраэнергію і камунальныя паслугі. У першага гэта сума сёння складзе каля двухсот рублёў, у другога — каля сямідзесяці, у трэцяга — усяго дваццаць.

Па-мойму, нават дзяленне інвалідаў (апрача трох груп па цяжкасці) яшчэ і на «гатункі» (вайны, Савецкай Арміі, працы, з дзяцінства, па агульнаму захворванню і што там яшчэ?) само па сабе амаральнае. А калі яшчэ заканадаўча ставяцца ў розныя ўмовы людзі аднолькавай групы і аднаго «гатунку» — гэта, прабачце, бязглуздзіца. Не верыцца, што ўсяго гэтага не заўважылі дэпутаты. А калі заўважылі і прааналізавалі, з якой тады мэтай пайшлі на пашырэнне пераліку асоб, што будуць карыстацца льготамі?

Хто можа здавальняюча абгрунтаваць мэтазгоднасць або неабходнасць, надзялення пенсіянераў правам бясплатнага праезду на гарадскім і прыгарадным транспарце? Якая ставілася мэта? Добра вядома, што на ўсіх узроўнях вядуцца размовы аб стратнасці пасажырскага транспарту. На аўтавакзалах кожны тыдзень вывешваюцца аб'явы аб ліквідацыі маршрутаў ці скарачэнні колькасці рэйсаў. А на выездах з гарадоў стаяць сотні людзей, «ловяць» спадарожныя, бо не змаглі сесці ў аўтобусы тых самых стратных маршрутаў. Нешта непраўдападобнае? Не, усё зразумела. Ужо зараз на некаторых напрамках ледзь не палавіна пасажыраў едуць па пасведчаннях. Пры гэтым многія з іх едуць без усялякай мэты: а чаму б не пакатацца, плаціць жа не трэба.

Скажуць: асабістая справа чалавека — ехаць, куды ён хоча, калі хоча і на чым хоча. І ўжо нікому няма справы да мэты паездкі. Слушная заўвага. Толькі вось гаворка ідзе пра тых людзей, якія на законных падставах едуць як быццам бясплатна, а на самай справе — за кошт іншых. І для якіх мэтазгоднасць паездкі не вызначаецца матэрыяльнымі стратамі, бо іх нясе хтосьці.

Няцяжка прадказаць, да якіх вынікаў прывядзе павелічэнне ўдвая ці ўтрая колькасці «бясплатных» пасажыраў у гарадскім ці прыгарадным транспарце. Па-першае, непазбежны рост кошту праезду. Або бюджэтныя ін'екцыі ў галіну, што ў канчатковым выніку для насельніцтва тое ж самае, толькі ў горшым выглядзе. Па-другое, тут адчувальную палёгку атрымаюць не тыя пенсіянеры, якія жывуць і да канца сваіх дзён будуць жыць на мінімальнай пенсіі, а ў першую чаргу пенсіянеры-льготнікі, — адносна маладыя і дужыя.

Наогул, замест розных падачак, якія зневажаюць годнасць чалавека і ніколі не могуць быць размеркаваны справядліва, трэба ўдасканаліць пенсіённае заканадаўства, маючы на ўвазе аддаць пенсіянерам хоць бы тое, што ў іх было да перабудовы. Нагадаю, што ў той час пенсіянер з максімальнай пенсіяй без усялякіх падачак мог жыць без клопатаў, хоць і не ў раскошы. І нават на мінімальную мог пракарміцца і заплаціць за жыллё. Хіба не так?

Разумею, зрабіць гэта сёння вельмі цяжка, трэба моцна думаць. Значна прасцей кінуць падачку — дый годзе. Адзін будзе задаволены, другі — не. Няхай канфліктуюць між сабой. Глядзіш, кіраўнікоў пакінуць у спакоі...

### «ПА-ЗА ЧАРГОЙ АБСЛУГОЎВАЦЦА...»

Далей ідзе доўгі пералік тых асоб, якія карыстаюцца правам нечарговага абслугоўвання: ад удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, герояў і дэпутатаў да персанальных пенсіянераў і, зразумела, работнікаў той галіны, якая абслугоўвае. Такія напаміны вісяць усюды, дзе нас хоць крыху абслугоўваюць. І нават у медыцынскіх установах, — там, дзе ва ўсім цывілізаваным свеце чарговасць аказання дапамогі вызначаецца толькі станам хворага, а не тым, да якой касты ён належыць.

Але больш за ўсё бянтэжыць, што ў гэтых напамінках мірна суіснуюць словы «права» і «чарга». Калі няма заканадаўчага вызначэння слова «чарга», зазірнём у слоўнік, які тлумачыць гэта слова так: «людзі, якія размясціліся адзін за адным для атрымання або здзяйснення чаго-небудзь у паслядоўным парадку». У гэтага стыхійнага ўтварэння няма статута, ніхто яму не выдае рэгістрацыйнага пасведчання і г. д. У такім разе аб якім праве ўмешвацца ў справы чаргі можа ісці гаворка? Хто і каму даваў права мяняць парадак размяшчэння людзей у гэтым нефармальным аб'яднанні, акрамя самога аб'яднання? Не можа быць такога права ні ў выканаўчых, ні ў прадстаўнічых улад. І ўсё ж адпаведныя пастановы дзейнічаюць. Многія дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, дарэчы і проста так, падкрэсліваюць у сваіх выступленнях, што яны — юрысты. Дык хіба такія прафесіяналы не бачаць, што ўсе пастановы адносна нечарговага абслугоўвання — з юрыдычнага пункту гледжання нонсенс?

Прадбачу катэгарычныя пярэчанні: аб якіх юрыдычных тонкасцях можна весці гаворку, калі ўсе гэтыя захады зроблены ў свой час з той мэтай, каб палепшыць умовы існавання заслужаных людзей, каб акружыць іх увагай і павагай. І ёсць адпаведныя пастановы ЦК КПСС і Саўміна. Ніхто гэтых пастаноў не адмяняў. Значыць, няма аб чым дыскутаваць. А мне здаецца, што па гэтай праблеме ёсць аб чым паспрачацца. Многія гады нашы вышэйшыя ўлады прымалі пастановы і нават законы, якія не ва ўсім адпавядалі не толькі міжнароднаму праву, але і ўласнай Канстытуцыі. І ўсё абгрунтоўвалася мэтазгоднасцю і іншымі высакароднымі мэтамі. Але ніякай мэтай нельга апраўдаць нават частковага пазбаўлення правоў адной групы грамадзян толькі дзеля таго, каб надзяліць неабгрунтаванымі правамі іншых.

Вось некалькі замалёвак з натуры, у якіх нічога не прыдумана. У вясковай краме васьмідзесяцігадовая бабуля, адстаяўшы паўгадзіны ў чарзе, называе прадаўцу патрэбныя ёй прадукты. У гэты момант прама ад дзвярэй да прылаўка накіроўваецца бадзёры яшчэ мужчына і без усялякіх цырымоній пералічвае патрэбны яму тавар. Прадаўшчыца на дзіва спакойна аднеслася да гэтага (відаць, прывыкла), не абурыліся і жанчыны ў чарзе, моўчкі чакала бабуля, пакуль абслужаць ветэрана вайны, бо ён мае права. Толькі не бачна было павагі ў іх вачах. Але не было і нянавісці. Была, бадай, крыўда і нейкая няёмкасць. Але ветэран хуценька пайшоў. Напэўна, нічога не заўважыў...

Вельмі часта чуецца: што з намі стала? Думаецца, больш правільна ставіць пытанне інакш: у каго нас ператварылі нашы колішнія кіраўнікі і працягваюць сённяшнія, вытраўляючы з нашых сэрцаў лепшыя чалавечыя якасці... заканадаўчымі актамі? Чаму здарылася так, што адукаваныя, наогул культурныя людзі, атрымаўшы сумніцельнае права на нейкія прывілеі, з неверагоднай лёгкасцю адмаўляюцца ад спрадвечных чалавечых каштоўнасцей? У першую чаргу такіх, як павага да чалавека, асабліва да жанчыны, спагадлівасць, гонар і годнасць мужчыны? Разумею, што цяжка і непрыемна стаяць у чарзе сельскаму ветэрану вайны. А хіба лягчэй тым старым жанчынам, якія да гэтага паспелі натупацца каля печы і каля сякой-такой жыўнасці? Ды і маладым мала лягчэй. У глыбіні душы, можа, ён і задумаўся над гэтым, але яму вышэйшыя ўлады далі права, бо яму цяжка было ў час вайны. А хто вырашыў, што лягчэй было той бабульцы ў акупацыі, на руках у якой замест зброі былі малыя дзеці?

Разумею, нельга абвінавачваць усіх тых, каму рознымі пастановамі падаравалі права нечарговага абслугоўвання, бо вельмі ўжо вялікая спакуса купіць тавар, асабліва дэфіцытны, не выстойваючы гадзінамі ў чарзе. І пазбавіць ад чаргі родных і блізкіх.

Адмяніце, паважаныя панове ці спадары кіраўнікі, свае непрадуманыя пастановы,— і вы пазбавіце мільёны людзей лішніх стрэсаў у чэргах. Гэтым самым вы дасягнеце і таго, чаго не дасягнулі адміністрацыйным шляхам: калі ў чарзе побач з простымі смертнымі будуць стаяць героі, ветэраны, «афганцы», дэпутаты, павага да іх непамерна ўзрасце. Ды і чэргі, магчыма, крыху зменшацца. А слабых, старых, інвалідаў прапусцяць наперад і без пастаноў. Як зараз прапускаюць жанчын з малымі дзецьмі, нягледзячы на тое, што адпаведных пастаноў ніхто не прымаў.

Толькі таму, што мяне могуць папракнуць у зайздрасці, адсутнасці павагі да заслужаных людзей, у чэрствасці і нават жорсткасці, вымушаны зрабіць гэтую прыпіску. З'яўляюся інвалідам II групы з парушэннем апорна-рухальнага апарата. Апрача таго, маю права на пенсію па ўзросту (ільготная, працаваў у гарачым цэху). Такім чынам, пры жаданні магу карыстацца тымі прывілеямі, якія прапаную скасаваць. Чаму? Я разумею, што цэны за праезд выраслі ў 20 разоў. Але ў такім жа маштабе выраслі мінімальныя пенсіі. Да таго ж, праезд — не галоўны артыкул расходаў пенсіянера. Вунь цэны на цукар узляцелі ў 60 разоў, на хлеб — у 50, на свініну — у 40. Але нікому не прыйшло ў галаву раздаваць бясплатна хоць бы хлеб. Не дзіўна?

**Іван ШЛАКУНОЎ.**

г. Полацк.

# І нават падарожжа на Паўночны полюс

**Мінскаму «Спутніку» трыццаць тры гады. Як акцыянернае таварыства ён зусім малады — яму паўгода. Цяжка з такім тэрмінам самастойнасці ісці насустрач бізнесу. Праўда, зарабляць грошы «Спутнік» пачаў тры гады назад. Аказана паслуг на 70 мільёнаў рублёў, у год праз яго праходзіць каля 200 тысяч чалавек. Наладжаны сувязі амаль з 30 турыстычнымі фірмамі свету.**

**— У 33 гады Хрыстос набыў новае жыццё. Можна сказаць, што «Спутнік», яго «аднагодак», таксама «ўваскрэс»? — Гэта пытанне я задаю дырэктару акцыянернага таварыства «Спутнік» Уладзіміру ШУЛЬГАНУ.**

— Я так не сказаў бы. Дарэчы, «Спутнік» заўсёды знаходзіўся ў нармальным стане і быў дзеяздольным арганізмам. Проста раней мы ніколі не ставілі перад сабой мэту дасягнення якіх-небудзь звышпрыбыткаў, працавалі па цэнтралізаванаму абмену. Усё, што зараблялі, трацілі на афармленне паездак. А прыбытку, што заставаўся, ледзь хапала на зарплату работнікам апарату. І толькі маленькая частка грошай ішла на развіццё. Хоць прыбытак быў вялікі — у год даходзіў амаль да мільёна долараў.

**— Цяпер, калі правялі «ціхую прыватызацыю», напэўна, намнога больш зарабляеце?**

— Не. Бізнесам «Спутнік» займаецца ўсяго тры гады. У мінулым годзе мы яшчэ неяк жылі, а ў гэтым — аб прыбытку і гаварыць не прыходзіцца. Пасля ўсіх выплат, падаткаў, зарплат і іншых «хвастоў» застаецца зусім мала.

**— Таму так рэзка падаражэлі паслугі вашай фірмы?**

— Паслугі не падаражэлі. Проста змяніўся рыначны курс долара. Раней пуцёўкі былі платныя, таму што СКВ была для нас па кішэні, ды і за кошт дзяржавы многае пакрывалася. Цяпер сітуацыя змянілася. Будзем шчырымі: на Захадзе можна знайсці даволі нядрэнную праграму адпачынку для моладзі ўсяго за 10 долараў у суткі. А вось дзе ўзяць грошы на тыдзень, на два? Мы ж можам прапанаваць зараз Аргенціну, Аўстралію і нават падарожжа на Паўночны полюс. Але ж не кожны купіць такую пуцёўку.

**— Мэта «Спутніка» — маладзёжны турызм, а цэны, як бачым, для моладзі маладаступныя?**

— Пакуль што так. Сітуацыя парадаксальная. Але думаю, што мы з яе дастойна выйдзем.

Апошнім часам многія прадпрыемствы і арганізацыі спісвалі свае «грахі» на развал эканомікі, на цяжкі пераход да рынку. Захапіла гэта хваля і нас. Аб моладзі амаль забыліся. Праўда, мы падалі запіску ў Савет Міністраў рэспублікі, каб моладзі былі дадзены льготы. Ва ўсіх развітых і цывілізаваных краінах яны ёсць для моладзі, якая падарожнічае, выдзяляе іх дзяржава. Калі наша запіска «пройдзе», то становішча з маладзёжным турызмам адразу пойдзе на папраўку.

Да таго ж, як бы ні было дорага — адпачываць трэба. Людзі гэта разумеюць. Калі, напрыклад, у чэрвені попыт на пуцёўкі ў Крым, Сочы быў невялікі, то ў ліпені патэнцыяльных падарожнікаў ужо аж занадта. Нашы турыстычныя базы цяпер не спраўляюцца з жадаючымі адпачыць.

**— Дарэчы, як ідуць справы па «экспарту» падарожнікаў?**

— З «экспартам» усё добра. Людзі едуць па ўсім свеце. А вось з «імпартам» кепска. «Чужаземцаў» да нас прыбывае ў шмат разоў менш. Усё гэта з-за нашай нестабільнай сітуацыі ў эканоміцы. Многіх адпужваюць і чарнобыльскія вынікі.

Калі гаварыць шчыра, дык Беларусі як самастойнай краіны яшчэ не існуе для замежных падарожнікаў. Усё асацыіруецца з СССР. Таму, калі страляюць дзесьці ў Закаўказзі ці ў Малдове, то яны ўсё роўна думаюць, што гінуць людзі ад куль у Савецкім Саюзе, а значыць, і ў Беларусі.

Няпроста пераканаць нямецкіх бюргераў ці галандскіх латыфундыстаў у тым, што мы — гэта мы, і што СССР не існуе, а ёсць асобна ўзятая дзяржава — Беларусь.

**— Калі мы загаварылі пра нашу нацыянальную прыналежнасць, то чаму вы сябе назвалі «Спутнікам», а не «Спадарожнікам»?**

— Ну, па-першае, назвы не перакладаюцца. І мяне абурае, калі некаторыя газеты называюць нас «Спадарожнікам». Па-другое, справа тут не ў назве. З агульнай згоды ўсіх заснавальнікаў таварыства мы вырашылі пакінуць імя, якое вядома далёка за мяжой. Я думаю, што ад гэтага будзе больш карысці, чым ад перамены назвы.

**— Уладзімір, а як назва «Спутнік» асацыіруецца ў кіраўніцтве РБ?**

— Адносіны ва ўрадзе Беларусі да нашай арганізацыі сур'ёзныя. Мы самастойнае рэспубліканскае таварыства, якое мае салідную вагу за мяжой.

Але нам хацелася б, каб урад больш увагі аддаваў нашым клопатам. Ды і патрэбна не толькі падтрымка, а нешта большае: дзяржаўная палітыка турызму. Гэта ж — жывая валюта. І мы не раз даказвалі, што менавіта ад яго можна найбольш атрымаць СКВ.

**— Але ж за мяжу жадаючых адпраўляе «Інтурыст», «Белтурыст» і іншыя фірмы, праўда, з меншым размахам. Як вы ставіцеся да сваіх канкурэнтаў?**

— Канкурэнцыя — гэта нармальна. Праўда, спрачацца паміж сабой за свайго кліента могуць толькі тры вышэйпералічаныя арганізацыі. Астатнім жа пакуль што такі груз не па сілах. Я думаю, што месца пад сонцам хопіць усім. Усё будзе залежаць ад здольнасцей саміх фірм.

**— Вашым «бацькам» быў маскоўскі цёзка. Якія зараз з ім адносіны?**

— Масквічы ў нас адны з заснавальнікаў акцыянернага таварыства і маюць сваю долю ў статутным капітале. Аб якой-небудзь залежнасці не можа быць і гаворкі. Мы самі за сябе адказваем.

**— Як жа тады мінскі міжнародны маладзёжны цэнтр «Юнацтва»? Юрыдычна ён яшчэ «пад Масквой» і Беларусі не належыць.**

— Гэтаму пытанню будзе прысвечана шмат часу. Мы маем намер яшчэ раз гаварыць аб гэтым ва ўрадзе, рыхтаваць дакументы ў Маскву.

Сітуацыя па «Юнацтву» сапраўды не з лепшых. Але мы прыкладзём усе сілы, каб гэта пытанне вырашыць.

**— А што яшчэ «ў будучым».**

— Хутка павінны адкрыцца індывідуальныя аўтобусныя паездкі ў Германію за аўтамабілямі. Хто хоча — кароткатэрміновы ваяж, а ў каго грошай болей, той можа выбраць маршрут з працяглым знаходжаннем у немцаў.

**— Уладзімір, аналізуючы нашу размову, можна зрабіць вывад, што ў «Спутніка» наперадзе далёка не ўсё «бязвоблачна». Які б дыягназ яму паставіў?**

— На мой погляд, самаадчуванне добрае. Я сказаў бы словамі майго сябра: «Не бачу падстаў для смутку».

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

